

## Менскія ўлады забаранілі правядзенне Дня беларускай вайсковай славы 8 верасня

31 жніўня, ува Ўправе БНФ адбылася прэсавая канфэрэнцыя, на якой кіраўніцтва арганізацыі паведаміла пра забарону менскімі ўладамі правядзення Дня беларускай вайсковай славы 8 верасня. Намеснікі старшыні БНФ "Адраджэньне" і Партыі БНФ Юры Хадыка і Віктар Івашкевіч, якія падавалі адпаведную заяўку ў Менарвыканкам, распавялі, што ўчора прадстаўнікі гарадскіх уладаў не далі дазволу праводзіць святочныя акцыі ў Менску, а нахабна прапанавалі заяўнікам святкаваць гэты дзень на Крапівенскім полі пад Воршай, бо "гэтая падзея не мае ніякага дачынення да Менску".

Тым не менш, як высветлілі ў гарвыканкаме заяўнікі, дзеля ўскладання кветак і гуляньняў у парку не патрабуецца ніякай рэгламентацыі і дазволу. Таму святкаванне 8 верасня ўсё ж такі адбудзецца. У 18.00 пройдзе ўскладанне кветак да помніка Перамогі на пляцы Перамогі. А 18.30 удзельнікі ўскладання скіруюцца да парку Янкі Купалы, дзе будуць праходзіць народныя гуляньні з выступамі бардаў і тэатралізаваным прадстаўленнем.

Вось што сказаў наконт забароны свята Вінцук Вячорка, старшыня БНФ "Адраджэньне" і Партыі БНФ: "Гісторыя з забаронай Дня беларускай вайсковай славы, як нельга лепш, ілюструе абяцанні Лукашэнкі захаваць "пэрыяд міру" да часу т. зв. "выбараў". Гэта правакацыя і абраза незалежніцкіх сілаў".

Трэба заўважыць, што перамогу рыцараў Вялікага княства Літоўскага над войскамі маскоўскіх інтэрвентаў, якая адбылася 8 верасня 1514 году пад Воршаю, незалежніцкія сіны святкуюць ужо 10 год, менавіта, як Дзень беларускай вайсковай славы.

# Наперадзе планеты ўсёй

Сапраўднага трыюмфу дамагліся на Эдынбургскім фестывалі мастацтваў "бліскучая дзевятка" акцёраў Віцебскага тэату імя Якуба Коласа са спектаклем "Шагал, Шагал" па п'есе Уладзіміра Драздова. 10 сцэнаў з жыцця самага вядомага ў свеце віцьбляніна пераадолелі моўны бар'ер і прымусілі журы Edinburgh Fringe, самага, бадай, прэстыжнага штогадовага тэатральнага конкурсу прысудзіць адно з чатырох першых месяцаў землякам Шагала.

Станоўчыя, а часам проста захапляльныя рэцэнзіі абыйшлі старонкі галоўных шатландскіх і англійскіх газет – Scotsman, guardian, The Herald. Пастаноўка віцьблянаў – адзіная ў кампаніі англасаксонскіх лаўрэатаў: тры іншыя прадстаўленыя трупамі з Шатландыі, Англіі і ЗША.

Беларускія тэатральныя трупы і мастакі дзякуючы падтрымцы вядомага шатладска-італьянскага мецэта Рычарда Дэмарака ўжо не першы раз прыязджаюць у Эдынбург, але такі поспех – першы ў гісторыі нашай краіны. Праўда, калі зазірнуць глыбей у гісторыю, высвятліцца, што традыцыя Эдынбургскага фестывалю мастацтваў, які стаў агульнаеўрапейскім з 1946 г., была закладзена яшчэ ў першай палове 19 ст. былым віленчуком Феліксам Яневічам – адзіным на той час прафесійным музыкам у шатландскай сталіцы. Шмат хто з крытыкаў і гледачоў, апроч бліскучай ігры акцёраў і цудоўнай кампазіцыі, адзначыў і прыгожую мелодыку беларускай мовы, якую не так часта можна пачуць у старым Эдынбургу. Што, у "вобласці тэатра" мы часам бываем наперадзе планеты ўсёй...

*Алесь Белы.*

***А поспех спектакляў тэатра ў многім залежыць ад таго, як аформіць сцэну мастак-дэкаратар Людміла Зіноўева (на здымку).***

***Фота Аляксандра Хітрова, БелТА.***



## Дарагія сябры!

### 12 верасня а 19 гадзіне

**Беларускі паэтычны тэатр аднаго актора "ЗЬНІЧ" запрашае Вас на дабрачынны спектакль "Выгнанне ў рай" (пра жыццё славутай Рагнеды). Усе сродкі ад спектакля пойдуць на падтымку Чырвонага касцёла св. Сымона і св. Алены, у якім павінны прайсці вялікія работы па ўстаноўцы пажарнай сігналізацыі агульным коштам 13 мілёнаў 800 тысяч рублёў. У выпадку невыканання неабходных работ эксплуатацыя касцёла будзе прыпынена.**

**Чакаем Вас з удзячнасцю ў тэатральнай зале касцёла!**

**Тэл. для даведак: 284-44-33, 231-75-53**

## Выстава

Новыя і рэдкія кнігі, часопісы, календары, аўдыё- і відэакасеты шукайце на выставе ў менскай сядзібе ТБМ (Румянцава, 13). Выстава працуе штодня (апроч суботы і нядзелі) з 10:00 да 19:00. Тэл.для замоваў (017) 241-60-35, Кірыл

Шаноўнае спадарства сёння мы друкуем буклет, прысвечаны ТБМ. Ён прызначаны для памнажэння і распаўсюджання з мэтай агітацыі за ТБМ і беларускую мову. Буклет адразаецца па лініі адрэзу і складваецца ў тры столкі.

*Лінія адрэзу* *Лінія адрэзу* *Лінія адрэзу*

***Таварыства беларускай мовы*** – гэта арганізацыя, у якой аб'ядналіся грамадзяне з мэтай культурна-асветніцкай дзейнасці ў галіне адраджэння беларускай мовы ў Беларусі і праз яе – усёй беларускай нацыянальнай культуры.

***Галоўная задача ТБМ*** – адраджэнне беларускай мовы ў дзяржаўным, грамадскім і духоўным жыцці народа.

***Аснова ТБМ*** – першасныя суполкі і раённыя (гарадскія), абласныя арганізацыі. Суполкі ствараюцца па тэрытарыяльных і вытворчых прынцыпах, пры наяўнасці не менш за трох сяброў ТБМ.

***Сябры ТБМ абавязаны:***

*імкнуцца дасканала авалодаць беларускай мовай, карыстацца ёю ў штодзённым ужытку, у сям'і, на працы...

***ТБМ мае права выдавецкай дзейнасці і свой перыядычны друкаваны орган, штотыднёвую газету "Наша слова" (падпісны індэкс: 63865).***

**Калі ты свядомы беларус ці хочаш стаць ім,**

**калі любіш Радзіму – Беларусь альбо**

**жадаеш навучыцца любіць яе,**

**калі шануеш родную мову і хочаш захаваць яе для нашчадкаў, тады ТБМ для цябе!**

**Адрас сядзібы ТБМ: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.**

**Кантактныя тэлефоны: 284-85-11, 213-43-52**

ТБМ існуе за кошт ахвяраванняў сяброў ТБМ і прыхільнікаў. Калі ў цябе няма часу, каб самому ўзяць удзел у дзейнасці Таварыства, але крыўдна за стан роднай мовы, ты можаш зрабіць свой унёсак у яе адраджэнне матэрыяльна:

**5$ - 1000 вось такіх улётак,**

**100$ - і яшчэ адна з лепшых стужак сусветнага кінематографу загучыць у перакладзе на беларускую мову...**

*Наша мова для нас святая,*
*бо яна нам ад Бога даная...*
**Францішак Багушэвіч.**

# ТБМ

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**




*Бараніце мову продкаў! Уступайце ў ТБМ!*





**ВАШ ПОСЛЕДНИЙ ШАНС**



*Уважаемые жители нашей прекрасной Логойщины!*

*Напоминаем, что заканчивается под-писка на един-ствен-ную регио-нальную газету "Родны край". У кого сегодня не найдется 900 рублей, подпишитесь на месяц. Всего за три стольника вы сможете быть в курсе всех важнейших событий, которые происходят в районе, на Минщине и в республике. По вашим пожеланиям мы все больше публикуем материалов на русском языке, в том числе и программу телевидения на все каналы.*

# "Родны край" за тры стольнікі

Вось такую ўлётку даслалі нам з Лагойшчыны неабыякавыя чытачы. Яе тэкст выглядае як кпіна з назвы газеты. "Всего за три стольника... По вашим пожеланиям мы всё больше публикуем материалов на русском языке..." Адпаведна ўсё меней будуць друкаваць матэрыялаў па-беларуску. *Аўт.* Дарэчы па чыіх пажаданнях, ці не па тых, па якіх зачынялі і зачыняюць беларускія школы і дабіваюць нашу мову. Можа нейкаму рускаму не стае прэсы на "русском языке"? Не, гэта мы беларусы на сваёй зямлі адчуваем сябе меншасцю, усюль засілле "русского языка", які выцесняе з роднага краю нашу спрадвечную мову. Можа мне запярэчаць, што беларусы самі па сваім жаданні адмаўляюцца ад сваёй мовы, як звычайна даводзіцца чуць ад панаехаўшых на Беларусь расейцаў. Зноў не, ў расейскай імперыі нашу мову забаранялі, у чырвонай расейскай імперыі за сваю мову тысячы і тысячы беларусаў былі забіты ў шматлікіх Курапатах і гулагах.

Мова -- душа народа, здраджваць мове значыць-- прадаваць душу. 2000 год назад такія справы каштавалі трыццаць срэбнікаў, а зараз тры стольнікі драўляных.

Рэдакцыі "Роднага краю" хацелася б параіць, змянілі б вы назву, ну напрыклад на "...последний шанс" ці што. А то цяперашні назоў не адпавядае курсу на "... всё больше...на русском языке".

**Тамаш Урублеўскі.**

# Аднаўляецца збор подпісаў за БНУ

**Шаноўныя сябры! ТБМ вырашыла прадоўжыць збор подпісаў за адкрыццё Беларускага Нацыянальнага Універсітэта, каб да наступнага лета давесці іх колькасць да 100 000. Сёння мы маем больш 30 000.**

**Сакратарыят ТБМ выказвае падзяку настаўнікам і вучням СШ №3 г. Глыбокага, якія не гледзячы на лета падалі ў Сакратарыят 484 подпісы за БНУ.**

**ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ**
**ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ**

Каб спыніць дыскрымінацыю карэннага этнасу, патрабуем забяспечыць грамадзянам Беларусі канстытуцыйнае права на атрыманне вышэйшай адукацыі па-беларуску.

Для гэтага патрабуем стварэння Беларускага нацыянальнага універсітэта.

| № | Прозвішча, імя , імя па бацьку | Адрас | Дата | Подпіс |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

# Пра беларускую мову ад шчырага сэрца

Адраджэнцы Беларусі вельмі крытычна становяцца да тых дзеячоў мастацтва, хто ў свой час быў прапагандыстам ідэй сацыялістычнага рэалізму. За верную службу тагаснай уладзе яны атрымлівалі ганаровыя званні, ордэны, медалі ды дабрабыт. Калі па вялікаму рахунку, то не ўсім наканавана быць ваяўнічымі змагарамі, а вось талент хочуць рэалізаваць многія. І рэалізоўвалі, нягледзячы на тое, што ў краіне існаваў дыктат і дыктатура. Рэалізоўвалі па-рознаму, гэтак, як робяць зараз. Тыя, хто намагаецца мне супярэчыць, няхай аб'ектыўна параўнае дзень сённяшні і трыццацігадовую даўніну. Як і некалі, не лепшы зараз час для прыстойнага жыцця, не спрыяльны для вольнай творчасці.

Асоба Заіра Азгура, скульптура манументаліста, вядома значна шырэй чым межы Беларусі дый былога СССР. Чалавек таленавіты, на ўсё меў свой погляд. З ім можна пагаджацца ці аспрэчваць. Толькі ягоныя думкі наконт беларускай мовы заслугоўваюць павагі ды выказаныя ім амаль 10 гадоў актуальныя і сёння.

***--Я люблю беларускую мову. Ёсць перажыванні і меркаванні, якія на іншай мове мне перадаць цяжка, бо ў нейкія хвіліны я проста не знаходжу раўнагучнага і гэтак жа выразнага слова ні ў рускай, ні ў яўрэйскай мове, ні ў якой іншай. Я не разумею людзей, якія грэбуюць родным словам і лічаць, што тым дэманструюць сваю як бы высокую культурнасць, самі вядуць гутарку, у думках пераводзячы сябе на тую ж рускую мову. Часцей за ўсё ў такіх выпадках атрымоўваецца нешта перамешанае: ні па-руску, ні па-беларуску. Яшчэ болей засмучае, калі дзеці растуць у непавазе да роднай мовы. Глумленне над моваю паволі пераходзіць у глумленне над культурай увогуле. Чалавек, які пагарджае родным словам, не стане беражліва адносіцца ні да магілаў продкаў, ні да помнікаў даўніны, ні да гістарычнай спадчыны. Такі скажона думае пра сённяшнее і не можа адэкватна меркаваць пра будучае.***

***Хіба я, напамінаючы ўсё гэта, адкрываю штосьці новае?***

***...Наўрад ці мяне можна занадозрыць у непавазе да нацыянальнай самасвядомасці людзей. Я на сабе пазнаў усю заганнасць нігілістычных адносінаў да роднай мовы, да культуры і гістарычнаму вопыту народа. У маёй скульптурнай майстэрні Якуб Колас і Змітрок Бядуля, Рыгор Шырма і Іван Ахрэмчык, Іван Мележ і Рыгор Бярозкін, Ларыса Аляксандроўская і Язэп Дзягілеў і Мікола Мірович, Уладзіслаў Галубок і Кузьма Чорны вялі са мною патаемныя гутаркі, у якіх болем адклікалася чутнае намі ўсімі выветрыванне беларускай мовы з грамадскага і бытавога ўжытку, замена яе на расходжую мову, прыдатную для службовых зносінаў насельніцтву, а не народу. Гэтакая сумесь нейкай рускай з вельмі блізкай да яе беларускай лексікай...***

***...Я часта бываю ў школах. Сярод дзіцячых выступаў па папярэдне для іх напісаных паперках неспадзявана прарываецца натуральнае пытанне ці захапленне па жывой беларускай мове, і адразу нейк нечакана павее на мяне свежасцю хваёвага бору з ваколіцаў Сенна, Чашнікаў, Лельчыц, і я лепей і сардэчней успрымаю непасрэднасць дзіцячага пытання ці сцвярджэння.***

***Наш час уладарна паставіў задачу вяртанне школы да народных вытокаў.***

Гэтыя выказванні былі змешчаны ў кнізе **"Тое, што памятаецца..."**.

*Язэп Палубятка.*

# Літаратурная старонка "Нашага слова"

## Беларускія думкі Уладзіміра Содаля

### ТУПІК

Ашмянская раёнка калісь, аж да 1991 года, выходзіла толькі расейскаю моваю. Мяне гэта вельмі бянтэжыла. Як жа так: Ашмяншчына – радзіма Францішка Багушэвіча! З гэтага кута раздаўся кліч: "Не пакідайце ж роднай мовы, каб не ўмёрлі". І вось табе маеш! Ашмянскі край не мае беларускамоўнай газеты. Я разумеў, адкуль тут ногі растуць. Але адно разумець. А другое – факты. А яны былі ў поўнай дысгармоніі. На Ашмяншчыне скрозь гучыць беларуская мова, а для яе насельніцтва выдаюць газету на мове суседняй краіны, суседняга народа. Гэтае разладдзе, гэты гвалт я моцна перажываў і неражываю. Зрэдку і ў мяне была патрэба друкавацца ў ашмянскай газеце. І найперш пра Францішка Багушэвіча. Але пра яго я мог пісаць для ягоных землякоў толькі пабеларуску. Іншае ж пісьмо ў маім разуменні пра Багушэвіча на Ашмяншчыне ёсць недарэчнасць і бязглуздзіца. І гэта стрымлівала маё супрацоўніцтва з ашмянскай раёнкай. Гэта быў такі тупік, з якога выбрацца не было як. Але ўсё ж хацелася неяк папулізаваць Багушэвіча, і я шукаў развязкі: прапанаваў усе мае нататкі пра Францішка Багушэвіча друкаваць пабеларуску. Рэдакцыя на гэта не пайшла: наша газета рускамоўная і ўсё тут. Мае намаганні лічылі дзіўнымі "странными", а мяне дзіваком – "странным человеком". Тады я мусіў прасіць: раз немагчыма друкаваць мае нататкі па-беларуску, то друкуйце іх сабе і па-расейску, але абавязкова пазначайце: "Пераклад з беларускай мовы". Але і гэтая мая просьба, здавалася, самая што ні на ёсць бяскрыўдная, памяркоўная і нават далікатная, заставалася па-за ўвагай. І ў ёй бачылася крамола. Але , хвала Богу, з часам усё ж сталася на маім, так , як я хацеў, як і належыць быць: з 1991 года ашмянская газета атрымала права друкавацца на двух мовах. З гэтай пары ўсе мае нататкі ўжо друкаваліся гэтак, як я іх пісаў.

x x x

Гэта вялікае шчасце вучыць і вучыцца ў роднай мове. Тыя, хто вучыць дзяцей ў роднай мове, ведаюць каго і для чаго вучаць. Яны іх вучаць любіць і шанаваць сваю спадчыну, Бацькаўшчыну. А вось тыя, хто вучыць нашых дзяцей на Беларусі ў іншай мове, не нашай мове, не нашай гісторыі, не нашай культуры, не нашым звычаям, невядома каго і для якой краіны гадуюць іх.

x x x

У некаторых людзей на Беларусі паталагічная непрыязнь да беларускай мовы. Яны яе ігнаруюць, не любяць слоўка беларускае, нават самае мілагучнае, самае найпрыгожае не прамовяць. І толькі таму, што яно беларускае. Што да мяне – хоць і я рэдка карыстаюся расейскай моваю, але ў мяне да яе няма аніякай непрыязні, аніякай нелюбові. Мова як мова, задаволены, што яе з большага ведаю. Іншая рэч, што я ніколі не магу пагадзіцца, каб расейская мова на Беларусі выцясняла нашу. Гэта факт. І мой святы абавязак, як льга, змагацца з гэтай з'яваю, супрацьдзейнічаць. Да самой жа расійскай мовы, паўтаруся, як мовы, у мяне няма і ніколі не можа і не павінна быць ніякай непрыязні.

x x x

- Ты русский язык понимаешь?
- Панімаю .... Але вось цябе, беларуса, які ігнаруе родную мову, зневажае яе, прыніжае, не панімаю !

### РАЗМАЎЛЯЮ ЯК ДЫХАЮ...

Калі мне даводзіцца размаўляць парасейску, а гэта надараецца дужа рэдка, я кожнага разу напружваюся. Увесь час думаю, што гэта ж я размаўляю парасейску, па-маскоўску. Гэта значыць, што хоць гэтая мова і падуладная мне, але не родная. Зусім інакш я пачуваю сябе, калі я моўлю на сваёй роднай мове. Тады я не адчуваю ніякай напругі. Размаўляю, як дыхаю. Размаўляю і цешуся, купаюся ў слове, як верабей, ці голуб у чыстай вадзіцы. У гэтай мове я магу яшчэ, размаўляючы, і тварыць.

Вось у чым розніца між роднай мовай і суседняй.

### НОВЫ! СКАЗ ПРА АЛЕСЯ ЧАРВЯКОВА І ЗМІЦЕРА ЖЫЛУНОВІЧА

Ішлі мы неяк з унучком праз плошчу Незалежнасці. А там, як вядома, пры Доме Урада помнік стаіць. Унучок і пытаецца: "А хто гэта?" Звычайна дзеці, як я заўважыў, не цікавяцца помнікамі. Стаяць, хай сабе стаяць. А гэты папытаўся, цікаўны такі ўдаўся... Што яму сказаць? "Дзядулька Ленін" – гэтага яму мала. Гэта, лічы, нічога не сказаць. Пачне пытаца: "А чаго ён тут стаіць?" Пра "дзядульку ж Леніна" яму цяпер ніхто не расказваў. Дый мне асабліва няма чаго сказаць пасля таго, як я шмат чаго даведаўся за апошнія гады пра правадыра пралетарыяту. Але без усялякага адказу малога я пакінуць не мог. Не ведаю чаму, а можа і ведаю, можа гэтага даўно хацеў, сказаў: "Алесь Чарвякоў". І патлумачыў: "Гэта першы наш беларускі прэзідэнт". А хто такі прэзідэнт – унучак ведае: гэта самы галоўны чалавек, які клапоціцца пра свой народ, сваю краіну. Сказаў так, а сам падумаў: "А чаму б і не? Чаму на гэтым пастаменце не стаяць постаці Жылуновіча ці Чарвякова? Абодва падпісалі гістарычны Маніфест. Абодва пачувалі сябе дзяржаўнымі людзьмі. З імёнамі абодвух звязана станаўленне нашай новай дзяржаўнасці. То чаму я не магу так думаць? Гэта іхняе законнае месца. І сам Дом Ураду, пабудаваны за іхнім часам, іхнімі клопатамі, увасабленне нашай новай дзяржаўнасці.

Цікава, а якой думкі вы?
Ці падзеляеце вы мае развагі?
Калі не падзяляеце, то чаму?

## Людміла Шот

**Мая Радзіма**

Мая Радзіма – лес, і поле,
І пах чаромхі на прыволлі,
І куст язміна каля хаты;
Усё тое, чым мой край багаты:

Пшаніцай, бульбай, буракамі,
Лугамі, рэчкамі, гаямі,
І нават звыклай канюшынай
І дзікай ружаю -- шыпшынай,

Кустом рамонак пры дарозе
І завушніцамі бярозы,
Птушыным гоманам над вёскай
І звонам ручая бясконцым.

Мая Радзіма, ты як маці,
Ну як цябе мне не кахаці!

**Родная мова**

Родная мова, нібы крыніца
З чыстай, гаючай вадой.
Кожнае слова ў ёй зіхаціцца
Спрадвечнай нязгаснай красой.

Родная мова -
Голас матулі,
Кожнае слова
З далёкіх часоў.

Яна, як вясёлка,
Ў нябёсах ўтанула.
Гучыць, нібы песня,
Друідскіх гаёў.

Хто не кахае яе
Той не знае,
Усёй прыгажосці
Мовы маёй!

x x x

Усе кажуць з усмешкай:
Ты ж гарадская,
Вёска навошта!
Ты ж не старая!

А я, нібы птушка
Ў клетцы, мяркую,
Вырвацца ў вёску
Ў нядзельку якую.

Прайсці пехатою
Праз луг каля рэчкі,
Памыцца расою,
Увайсці ў свае сенцы.

А потым у лес,
Каб набрацца зноў сілы,
Каторы ўжо раз
Ён мой лекар адзіны.

x x x

Я люблю,
Калі падае дождж
Ціха – ціха...
Ціхі дождж –
Ён маўклівы
Быццам спакой мне дарue,
Дае мне сілы.
А потым на небе
Успыхне вясёлка:
Зазяе!
Нібы кажучы людзям:
Жывіце ў згодзе!
Паглядзіце вакол,
Прыгажосць якая!

x x x

Грай жалейка
І забірай,
Смутку навошта
Гуляць у маім сэрцы!
Я дастаткова і так
Жалобу насіла ўрэшце.

А сёння прашу:
Адыдзі!
Ужо на цябе
Я не ў крыўдзе.
Слёзы мае пайшлі
З навальніцамі дзесьці.

Як ніколі
Мне хочацца жыць!
З усмешкай
Сустрэць світанак.
Грай жа, жалейка,
Грай!
І плач
На развітанак.

x x x

Ты пайшоў з хаты
Проста,
Як быццам так трэба.
Не вінавата.
Няўжо і сэрца
У цябе не балела?

Дзеці глядзелі ў вочы,
Прасілі астацца.
А ты пайшоў да другой,
Каб стварыць там шчасце.

Пайшоў, не сказаўшы
Да пабачэння!
Дзяцей не абняўшы,
Не папрасіўшы
У іх прабачэння.

x x x

Дзеткі, мае галубочкі.
Кветачкі мае яскравыя.
Вы мае анёлачкі
Самыя жаданыя.

Нібы праменьчыкі
Цяплыню мне дорыце.
Быццам агеньчыкі
Жыццё асвятляеце.

Ноччу, вы мае зорачкі,
Дзеткі, бясконца любыя,
Так вас абняць хочацца,
Прыгалубіць мілыя.

Вы, як тыя птушачкі,
З хаты разляцеліся.
Як мне ведаць хочацца,
Што далей адбудзецца.

x x x

Забойствы, зладзействы...
Наогул злачыннасць,
Як вуж папаўзе,
Дай толькі магчымасць.
У цягніку, на вакзале,
На мнагалюдным базары.
На могілках, у памяшканні...
Хто гэта робіць?
Дзіўлюся я.
Людзі!
Няўжо яны думаюць--
Кары не будзе.
За гэты чорны,
Як сажа, учынак!
За чыесьці слёзы,
Чыёсьці гора.
Ратуй іх, Божа!

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 4. 09. 2000 г.
Наклад 2700 асобнікаў. Замова № 2352
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 171 руб., 3 мес.- 513 руб.
*Кошт у розніцу:* 40 руб.